


На лавачцы ў Збучы

Фота М. Гайдука.

№ 44 (1212) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 2.XI.1980 г.

Д. Якутовіч




## КАЗКА

Ніхто не любіў дожджыку. Варта было яму азвацца ў лесе, як звяры і птушкі хаваліся — хто ў нару, хто ў дупло, а хто пад яловую лапку. У лесе станавілася пуста і сумна.

— І калі ён скончыцца? — бурчаў стары вожык, выглядаючы з-пад яліны. — Ідзе і ідзе. Усе калючкі прамоклі.

— Як жа я магу скончыцца? — ледзь не плачучы ад крыўды, пытаўся дожджык. — Тады мяне не будзе?!

— Вось і добра, што не будзе, — хмурна адказаў вожык і шыўся назад пад яліну.

Дожджык журботна ўздыхнуў і ішоў далей.

— Хутчэй бы выглянула сонейка, — марыла вавёрачка, седзячы ў дупле. — Навокал так мокра, няўтульна!

— Але я не магу быць іншым! — з роспаччу тлумачыў дожджык. — Я заўсёды такі — мокры!

— Вельмі дрэнна! — злавалася вавёрка і адварочвалася.

І дожджык мусіў гуляць адзін. Ён прывык да адзіноты і прыдумляў свае забавы: скакаў па траве, барабаніў па лісці, напяваючы сумную песеньку:

— Тук-тук, тук-тук...

Калі станавілася зусім сумна, дожджык рабіў ручайкі і пускаў па іх караблікі з сухога лісця.

Часам дожджык ішоў даляснога возера. Яму вельмі хацелася ўбачыць сваё адлюстраванне.

— Няўжо я такі страшны? — думаў дожджык і глядзеўся ў ваду.

На паверхні возера ад кропель разбягаліся кругі. Дожджык ніяк не мог разгледзець сябе. Ён плакаў і таму ішоў яшчэ мацней.

Аднойчы з вады на ліст гарлачыка выскачыла жабяня.

— Прывітанне! — весела сказала яно і падставіла пад дожджык лапку. — Як здорава!

— Ты мяне не баішся? — здзівіўся дожджык.

— Ніколечкі! — адказала жабяня. — Хіба цябе трэба баяцца?

— Не ведаю, — разгубіўся дожджык. — Усе ад мяне хаваюцца. Я, пэўна, страшны.

— Зусім не! — рассмяялася жабяня. — Ты добры і цёплы.

— Праўда? — узрадаваўся дожджык. — Я ніколі не бачыў свайго адлюстравання.

— Ведаеш, які ты?

Жабяня задумалася.

— Вось такі!

Яно шырока распасцёрла лапкі, але потым дадала:

— І вось такі.

Жабяня паказала на пальчыках штосьці зусім маленечкае.

— Пойдзем гуляць, — прапанаваў дожджык.

— Пойдзем! — згадзілася жабяня.

Яно скочыла ў ваду, падплыло да берага, і яны пайшлі гуляць. Дожджык і жабяня. Дожджык быў вельмі шчаслівы, што займеў сабе сябра. Ён расказаў яму дажджавыя сакрэты. Пра тое, як узнікае вясёлка. Адкуль бяруцца туманы. І яшчэ шмат цікавага.

— Гэй! — гаварыла жабяня, калі дожджык апынуўся наперадзе. — Пачакай! Мне цябе не дагнаць!

Дожджык спыняўся і чакаў жа-

бяняці...

— А я ўмею ручайкі рабіць! — хваліўся дожджык.

Ён ішоў мацней, і па зямлі беглі звонкія ручайкі. Жабяня брала вялікі ліст, садзілася на яго верхам і імчалася на хвалях, як на лодачцы.

— Ну, мне час дадому, — удосталь нагуляўшыся, сказала жабяня. Яно працягнула дожджыку лапку. — Прыходзь заўтра. У возеры жывуць адны рыбы. А з імі сумна. Яны ўвесь час маўчаць і маўчаць.

— Добра! — сказаў дожджык. — Я абавязкова прыйду!

Яны рассталіся. Жабяня паскакала да возера. Дожджык пайшоў за лес. Пасля яго выглянула сонца і ў небе павісла вясёлка. І кропелькі вады, якія дожджык параскідаў па лесе, ператварыліся ў маленькія вясёлкі.

— Гэта ад дожджыку, — седзячы на лісце гарлачыка, тлумачыла жабяня рыбам. — Толькі нікому не расказвайце. Мне дожджык па сакрэту сказаў.

Рыбы важна маўчалі і ў знак згоды пускалі бурбалкі.



**ЛАРЫСА ГЕНІЮШ**

## ЗУБРЫ

*Белавежаю крочаць зубры,*
*Пушчы слаўнае валадары.*
*І гарбы ў іх крутыя, і рогі.*
*Саступаюць усе ім з дарогі:*
*І мядзведзі, і злыя ваўкі*
*Зразу кідаюцца у бакі.*
*Толькі зайчык адзін не баіцца,*
*Скача, скача ля светлай*
*крыніцы.*

## КАПУСТА

*На гародзе стала пуста.*
*Толькі пышная капуста*
*Ветру, сцюжы не баіцца:*
*Мае цёплыя спадніцы.*
*Гожая, здаровая,*
*Ўся белагаловая.*

## ВАВЁРКА

*У лісічкі свая норка.*
*У вавёркі ёсць каморка.*
*Як у добрай гаспадыні,*
*У вавёркі поўна ў скрыні:*
*Жалуды, арэхі, шышкі. —*
*Намалюйце іх для кніжкі.*

## ЧМЕЛЬ

*Была ў чмяля жонка —*
*Рухавая пчолка.*
*То мядок збірала,*
*То чмяля частавала.*
*А ён, надзіманы,*
*На дыван даматканы*
*Лёг*
*і кажа рамонкам:*
*— Маю дрэнную жонку.*
*Дома толькі начуе.*
*Днём паклічу — не чуе.*
*Мёду мае нямала,*
*Але вострае джала.*

**В. Чапліна**

# Вожыкава сямейка

**Пачатак у папярэднім нумары**

Будка была зроблена добра, з падвойнай, цёплай падлогай і са зніманым дашкам, каб лепш было ўтрымоўваць чысціню і мяняць падсціл. Дзядзька Хведар падняў дашак і ўжо хацеў было сабраць стары падсціл, калі заўважыў, што ў куточку нешта варушыцца. Дзядзька глянуў і здзіўлена войкнуў... Там, у маленькім прытульным паглыбленні, быццам у гняздзечку, капашыліся патрывожаныя раптоўным святлом маленькія ружовыя цельцы, пакрытыя ледзь бачнымі, рэдкімі іголачкамі. Няўжо вожыкі?!

— Анюта! Хадзі сюды! Хутчэй, паглядзі, што тут! — крыкнуў ён на жонку.

— Ну што? Што ў цябе там? — незадаволена адгукнулася бабка Анюта.

— Глядзі, малыя вожыкі ў Альмы! Важычаняты!

— Ды ты што, з глузду з'ехаў! У сабакі — важычаняты?

— Не ў Альмы, а ў Альмінай будцы, — паправіўся дзядзька Хведар. — Ты толькі паглядзі, якія ружовенькія! Відаць, нядаўна нарадзіліся...

Бабка Анюта заспяшалася да мужа, нахілілася над вожычкамі, але доўга іх не разглядвала.

— Ведаеш, Хведар, лепш ты зачыні дашак і не заглядай больш, бо вожычыха кіне дзяцей, што ты тады з імі зробіш?

— Не кіне, — упэўнена запярэчыў дзядзька Хведар. — Тут ёй і дом, тут ёй і ежа — кепска?

Але дашак усё ж апусціў.

І ніхто з іх, ні дзядзька Хведар, ні бабка Анюта, нават не здагадваліся, што гэтая вожыкава сямейка будзе для іх такой клапатлівай. Па-першае, з'яўленне важычанят трэба было трымаць у таямніцы ад Андрэйкі, інакш ён іх напэўна выцягне. Па-другое, пільнаваць Альму, бо хоць яна і блізка не падыходзіла да будкі, дзядзька Хведар узяў яе на ланцуг. Апрача таго, цяпер трэба было не толькі карміць вожычыху, але і даваць ёй розную ежу: яна ж цяпер была маці, і да яе быў патрэбны спецыяльны падыход. Дарэчы, гэтыя клопаты поўнасцю ўзяла на сябе бабка Анюта. Яна старанна клапацілася аб харчаванні вожычыхі. Цяпер у яе місачцы ляжалі то разбітае яйка, то кавалачкі мяса, то налітае цёплае малако. І трэба сказаць, што вожыкава мама на апетыт не скардзілася. Пастаўленая ёй ежа была заўсёды з'едзена, а міска чыста вылізана, быццам вымыта.

Але вось утаіць ад Андрэйкі з'яўленне ў Альмінай хатцы важычанят не ўдалося. Хлопчык уміг разгадаў дзедкаву таямніцу пры дапамозе сваіх звычайных „а чаму?“. А чаму бабуля стаўляе сюды ежу? Для каго? А чаму Альма жыве не ў будцы, а каля дроў? А чаму яе прывязалі? Дзядзька Хведар зусім заблытаўся ў адказах, і прыйшлося расказаць Андрэйку і пра вожычыху і пра важычанят, якіх яшчэ нельга трывожыць.

— Вось падрастуць трошкі, тады і пакажу! — абяцаў ён унуку.

Дарэчы, дзеду самому не цярпелася паглядзець на вожыкаву ся-

мейку. І вось аднойчы, узяўшы з Андрэйкі ўрачыстае абяцанне не чапаць малых, дзядзька Хведар падышоў з ім да будкі, ціхенька адчыніў дашак і моўчкі паказаў у левы куток, дзе ляжалі ўжо падросшыя важычаняты. Убачыўшы вожычкаў, Андрэйка адразу ж накінуўся на дзядзьку Хведара з такой колькасцю пытанняў, што на іх і спецыялісту не лёгка было б адказаць. Дарэмна прабаваў дзед спыніць разбуялую цікавасць унука. Нарэшце Андрэйка, сам змучыўшыся ад уласных пытанняў, сказаў:

— Нічога ты, дзедку, не ведаеш!

І дзядзька Хведар зразумеў, што з гэтага часу яго непарушны аўтарытэт бясслаўна ўпаў.



На наступны дзень дзядзька Хведар лепш апрануўся і адразу ж з самай раніцы пайшоў у бібліятэку.

— Мне б кніжку пра вожыкаў, — папрасіў ён.

— Пра вожыкаў? — здзіўлена перапытала пажылая бібліятэкарка. — А хто аўтар?

— Ды я і сам не ведаю, — прызнаўся дзядзька Хведар і расказаў пра Андрэйкавы пытанні і свае цяжкасці.

— Та-ак, цікавы ў вас унучак, — паспачувала бібліятэкарка. — Мой таксама, трох гадоў яшчэ не мае, а ўсе маркі аўтамашын ведае, давялося і мне іх пазнаць. — І задуменна дадала: — Хто вожыкаў... хто аўтамашыны, — і пайшла па кніжку.

Патрэбная кніжка знайшлася. Ледзь не да абеду прабыў дзядзька Хведар у бібліятэцы, старанна вычытваючы пра жыццё вожыкаў. Вярнуўшыся дадому, ён пасадзіў каля сябе Андрэйку і пачаў яму расказваць усё, аб чым сам даведаўся: што вожык — карысны звярок, палюе ноччу, што есць розных вужоў, лічынак, мышэй, а калі трапіцца ядавітая змяя, і яе з'есць, а змяіны яд яму зусім не страшны. І пра вожыкавых ворагаў расказаў: хоць вожык калючы, але ворагаў у яго шмат — і ліса, і шэры воўк, і пугач, і сабака... А абарона ў яго адна — скруціцца ў клубочак і іголкі на ўсе бакі расставіць. Але не заўсёды гэта дапамагае.

Але самым цікавым для Андрэйкі было даведацца, што важычаняты нараджаюцца маленькімі-маленькімі, амаль такімі, як бабулін напарстак. Яны зусім бездапаможныя, сляпыя і нават іголачкі ў іх у першы час мяккія і рэдкія. А мама-вожычыха як іх даглядае! Ліжа і ліжа то аднаго, то другога

(*Працяг на стар. 7*)




## МЕСЯЦ БЕЗ СОНЕЧНАГА СВЯТЛА

У Швейцарыі ёсць мястэчка Мартыгны Бург. Жыве ў ім 3300 жыхароў. Мястэчка знаходзіцца ў такой глыбокай даліне паміж гарамі, што чатыры тыдні ў годзе, калі сонца ўзнімаецца на небе вельмі нізка, да мястэчка наогул не даходзіць сонечнае святло. Ад 9 снежня да 6 студзеня там стаіць ноч, як бы мястэчка знаходзілася за палярным кругам.

## АЗЁРЫ

На тэрыторыі Савецкага Саюза знаходзіцца 2 мільёны 800 тысяч азёр, з якіх кожнае мае плошчу больш 1 км². Гэта складае 35% плошчы ўсіх азёр свету. Найбольшыя з савецкіх азёр — гэта Каспійскае і Аральскае, якія ў сувязі з іх гіганцкімі памерамі называюцца морамі.

## ВЕРАБ'І

У нас усюды поўна вераб'ёў. Але нямала ёсць краін на свеце, дзе вераб'і зусім зніклі. Напрыклад, у Італіі вераб'і зніклі яшчэ ў III стагоддзі нашай эры. У Вялікабрытаніі і Бельгіі — у XIX стагоддзі, у Швейцарыі няма іх ад 1900 года, у Швецыі апошніх вераб'ёў бачылі ў 1954 годзе, а ў Японіі на востраве Хансю ёсць цяпер толькі 6 гнёздаў.

У апошнія гады павялічваецца колькасць вераб'ёў у Польшчы, ГДР, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Грэцыі, Іспаніі і Партугаліі.

## АЎТАМАТ ЗАЧЫНЯЕ ВОКНЫ

У Вялікабрытаніі ўсё часцей можна сустрэць у новых гарадскіх будынках вокны, праз якія не пранікае вулічны шум. Калі шум на вуліцах узмацняецца, вокны самі зачыняюцца. Кіруе гэтым аўтамат, абсталяваны на даху дома.

## „ТОНКІ" ТЭЛЕВІЗАР

Японская фірма „Соны" выпрадукавала зусім тонкі, плоскі тэлевізар. Яго экран мае таўшчыню толькі 6,5 міліметра!

## ВЕРТАЛЁТ У САМАЛЁЦЕ

Амерыканская фірма „Каман" запрапанавала новы сродак забеспячэння пілотаў у рэактыўных самалётах. Будзе гэта крэсла-катапульта з прымацаваным рухавіком і складаным вінтом-прапелерам. Пры патрэбе крэсла-верталёт будзе самастойна ляцець на адлегласць каля 140 кіламетраў у патрэбным напрамку з хуткасцю 100 км на гадзіну.

## БАРАЦЬБА З ПАЦУКАМІ

У Будапешце ўдалося за два гады поўнасцю знішчыць усіх пацукоў. Яшчэ ніколі ў свеце нікому не ўдалося знішчыць усіх пацукоў у вялікім горадзе. Зроблена гэта было пры дапамозе 1,5 мільёна кілаграмаў атруты.

# ЗАГАДКІ ПРА САДАВІНУ І ГАРОДНІНУ

## ШТО ГЭТА?

1. Румяны Піліп да палкі прыліп.

2. Чырвонае цельца, каменнае сэрца, вінная на смак, а завецца як?

3. На градзе агонь ірдзее,
не пячэцца і не грэе.
Ён пахучы і прыгожы,
нават дождж заліць
не можа.
І з такіх агнёў-праменняў
вараць смачнае варэнне.

4. Паміж гор, паміж далін ляжыць пан-гаспадзін.

5. Поўна бочачка круп, а наверсе струп.

6. Кандрат мой брат, праз зямлю прайшоў, чырвоную світку знайшоў.

7. На двары — зялёны, а ў хаце — салёны.

8. Вось вам новая задача:
Не арэх я і не куля,
А як крышаць, кожны
плача.

9. Сем баб, а ў гэтых баб — па сем кіёў; а ў гэтых кіях — ды па сем сучкоў, на гэтых сучках — па сем кошыкаў, а ў гэтых кошыках — па сем кацянят, а ў гэтых кацянят — ды па сем хвасцянят.

(Адказы: бульба, агурок, гарбуз, морква, цыбуля, мак, яблык, труськалка, вішня. Адказы пададзены ў іншым парадку, чым загадкі).

## Пазнаёмімся

СССР, 344093, г. Ростов-на-Дону — 93, ул. Туполева, дом 21, кв. 122. Гущину Николаю. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты 6, пр. Ленинского Комсомола, 49, кв. 20. Тарасенко Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

СССР, 183034, г. Мурманск, ул. Свердлова 66 — 5. Бабаевской Оле. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

БССР, Гродзенская вобласць, Мастоўскі раён, в. Мілявічы, Хурса Лілія. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

(Працяг са стар. 5)

## ВОЖЫКАВА СЯМЕЙКА

— усіх памые. А калі прагаладаюцца, вожычыха ляжа побач і ляжыць, пакуль вожычкі не насмокчуцца малака. Слухае Андрэйка дзедку і дзівіцца. Гэта ж трэба, адкуль толькі дзедка столькі ведае! Усё ведае! А ўчора прыкідваўся, адказваць не хацеў...

Вожычкі раслі хутка. Праз месяц іх чорныя носікі ўсё часцей выглядвалі з будкі. А аднойчы, калі дзядзька Хведар з Андрэйкам заглянулі ў хатку, вожычкаў там не было. Яны перасяліліся ў суседні закінуты сад. Але кожны вечар, ледзь толькі сцямнее, уся вожыкава сямейка з'яўлялася каля міскі, дзе ім заўсёды была прыгатавана смачная ежа.



Замалюй каляровымі алоўкамі: + карычневым, :. жоўтым, V — цёмназялёным, / чырвоным, I — белым, II — светлазялёным, • — чорным, — блакітным. Што ў цябе атрымалася?

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.